


# Беларус

**50-ГОДЗЬДЗЕ!**

*«Другі Ўсебеларускі Кангрэс... пастанавіў: Вызнаць правільнай і зноў пацьвердзіць гістарычную пастанову Рады Беларускай Народнай Рэспублікі... 25 сакавіка 1918 г.»*

*Менск, 27 чэрвеня 1944 г.*

№ 417 Кастрычнік 1994
Год выд. 43

BIELARUS / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $2.50


## ПРЭЗЫДЭНТУ АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ ПАД РАЗВАГУ

«Барані нас, Божа, узгадоўваць рабства ў нашых дзяцей». Такімі словамі закончыла Лідзія Савік рэцэнзію на кнігу «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», выданую сп-няй Раісай Жук-Грышкевіч.

Апошнія выбары прэзыдэнта Беларусі выклікалі зьдзіўленьне міжнароднай прэсы палітычнай няспеласьцю беларускіх выбаршчыкаў. Яны пайшлі шляхам тых расейцаў, якія паверылі Жырыноўскаму і далі яму 25% галасоў. Я перакананы, што сёньня кожны сумленны расеец саромеецца гэтага выбару. Я не параўноўваю тут асобы сп. Лукашэнкі да Жырыноўскага, а толькі мэтады здабываньня галасоў: абяцай усё, што людзі хочуць — абы выбралі, а пасьля пабачым. Прабуджэньне пасьля выбараў можа быць даволі прыкрае, калі народ пабачыць, што сп. Лукашэнка ня зможа выканаць абяцаньняў, бяручы пад увагу вельмі крытычнае эканамічнае палажэньне краіны, як вынік збанкрутаванай камуністычнай сыстэмы.

Нас, беларускую дыяспару, непакоіць таксама іншая справа: менавіта адносіны сп. Лукашэнкі да нацыянальнага пытаньня ў Беларусі. «Голас Радзімы» (нр. 28 за 14 ліпеня сёлета) зьмясьціў артыкул сп. З. Пазьняка пад загалоўкам «Нідзе ў сьвеце няма краіны, у якой-бы так не паважалі свой народ». Чытаючы яго, я ня мог паверыць, што гэта можа здарыцца ў так званай сувэрэннай і дэмакратычнай Беларусі. Мне хочацца ведаць, сп. Лукашэнка, пад якім сьцягам Вы стаялі каля помніка Перамогі? Хіба-ж не пад бел-чырвона-белым, якіх там ня было. Там былі толькі чырвоныя сьцягі, каб прыпомніць нам аб няслаўнай крымінальнай дзейнасьці ў былой БССР.

Кажуць, што Вы, сп. Лукашэнка, яшчэ носіце на грудзёх дэпутацкі бээсэсэраўскі значок. Калі Вам гэтае мінулае так блізка да сэрца, дык скажэце выразна аб гэтым, няхай людзі ведаюць. Кажуць, народ заслугоўвае на той урад, які ён сам сабе выбраў. Кажуць, што Вы, сп. Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь, цураецеся сваёй роднай мовы ды гаварыце выключна па-расейску, хоць і з выразным беларускім акцэнтам. Калі Вы хочаце павароту савецкай імпэрыі пад чырвоным ці царскім сьцягам, скажэце выразна, і тады пабачым, ці наш народ Вас падтрымае.

Цяжка ды несправядліва Вас абвінавачваць. Вы — прадукт свайго часу. Вы нарадзіліся ў няволі ды расьлі ў няволі. Мне міжвольна прыходзіць на думку час турэцкіх захопаў славянскіх тэрыторыяў, дзе туркі бралі ў палон маладых хлапцоў ды ўзгадоўвалі іх у духу ненавісьці да народаў, зь якіх яны выйшлі. Іх называлі янычарамі. Яны стваралі штурмовыя аддзелы, эліту турэцкай арміі. Яны ня бралі ў палон ворага, а нішчылі ўсё дашчэнту мячом ды агнём. Колькі ў нас на Беларусі такіх духовых янычараў, якія ненавідзяць усё, што беларускае! Няхай ніхто не бярэ маіх слоў як асабісты закід ці абразу. Я выказваю толькі вялікі жаль, што такая сытуацыя стварылася на нашай Бацькаўшчыне.

Мы таксама ня супраць эканамічных зносінаў з суседзямі. Трэба браць пад увагу нашае геапалітычнае палажэньне. Беларусь стаіць на мяжы двух сьветаглядаў, дзьвюх культур, дзьвюх вялікіх рэлігіяў, і таму нам нельга зачыняць дзьверы ані на Захад, Поўдзень, Поўнач ці Ўсход.

Сп. Прэзыдэнт, Вас выбраў беларускі народ. Дакажэце Вашай дзейнасьцю, што ён не памыліўся. Павароту да камуністычнай сыстэмы няма. Яна збанкрутавала ня толькі на тэрыторыі Савецкага Саюзу, але амаль на цэлым сьвеце. Затрымайцеся на хвіліну ў Курапатах. Аддайце пашану нявінным ахвярам жорсткага савецкага генацыду. I не дазвольце, каб гэта паўтарылася. Мы ўсе будзем гатовы стаць за Вамі ды падняць наш бел-чырвона-белы сьцяг, каб паставіць Беларусь на пачэснае месца між народамі.

**Барыс Рагуля**

## ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЯЎ У БЕЛАРУСІ ПАМЕНШАЕ

Парлямэнтам Беларусі прыняты Закон «Аб палітычных партыях». Згодна зь ім колькасны склад палітычнай партыі ня можа быць меншы, чым 500 асобаў. Нарушэньне гэтай нормы ці фальсіфікацыя дакумэнтаў, пададзеных на рэгістрацыю, могуць стаць падставай для ліквідацыі партыі. Дваццаць шэсць ужо зарэгістраваных у рэспубліцы партыяў павінны будуць перарэгістравацца да 1-га красавіка наступнага году. Улічваючы, што большасьць з іх трымаецца на адзінках энтузыястаў, можна чакаць, што колькасьць палітычных партыяў у Беларусі значна паменьшыцца.

Прадстаўнікі дэмакратычных парлямэнцкіх фракцыяў ацэньваюць нованрыняты закон як антыдэмакратычны і прытрымліваюцца думкі, што менавіта Прэзыдэнту (які, дарэчы, выступае супраць выбараў па прапарцыянальнай схэме) выгадна стрымліваць разьвіцьцё шматпартыйнасьці ў Беларусі напярэдадні выбараў.

## АМЭРЫКАНСКІЯ СПЭЦЫЯЛІСТЫ АБ КАНТРОЛІ ЭКСПАРТУ Ў БЕЛАРУСІ

У міжнародным сэмінары «Прававое рэгуляваньне кантролю экспарту у незалежных дзяржавах», арганізаваным у кастрычніку ў Менску пры Інстытуце пэрспэктываў разьвіцьця і бяспекі Беларусі, прымалі ўдзел вучоныя й спэцыялісты па экспартнаму кантролю з ЗША, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Польшчы, Расеі, Украіны, Латвіі і Казахстану.

Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці, Беларусь, хоць заканадаўства яшчэ не зацьверджана Вярхоўным Саветам, зрабіла нямала па ўсталяваньню унутранай сыстэмы кантролю над экспартам. Да важных крокаў можна аднесьці пагадненьне зь міністэрствам абароны ЗША аб «дапамозе, звязанай з сыстэмай кантролю над экспартам зброі масавага зьнішчэньня з тэрыторыі Рэспублікі Беларусь». Пасьля зацьверджаньня Вярхоўным Саветам рэспублікі далучэньня да Дагавору аб нераспаўсюджаньні ядзернай зброі 4-га лютага 1993 года, каб прадэманстраваць падтрымку гэтых важных крокаў, урад ЗША выдзяліў Беларусі 2,26 мільёны даляраў у рамках аказаньня дапамогі па правядзеньню кантролю над экспартам.

Удзельнікі сэмінару падкрэсьлілі, што беларускія экспарты ў хуткім часе дасягнуць таго ўзроўню, калі Рэспубліка атрымае той варыянт экспартнага кантролю, які ёй сапраўды патрэбны.

## АД САВЕЦКАЙ УЛАДЫ ЗАСТАЛАСЯ ТОЛЬКІ НАЗВА

Вярхоўны Савет Беларусі задаволіў прапановы Прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі па рэфармаваньню мясцовай улады. На сёньняшні дзень ад Савецкай улады на Беларусі засталася адна толькі назва.

Скасаваныя сельскія, пасялковыя, гарадскія і раённыя саветы саступілі месца мясцовай адміністрацыі. Уся паўната выканаўчай улады перададзеная ў рукі «выканаўчай вертыкалі», якую кантралюе Прэзыдэнт. Цяпер вышэйшай службовай асобай у вобласьці, горадзе ці раёне становіцца старшыня адпаведнага выканаўчага камітэту, які на ўзроўні вобласьцяў прызначаецца Прэзыдэнтам, а на ўзроўні раёнаў і гарадоў старшынём вабласнага выканаўчага камітэту і зацвярджаецца адпаведным саветам. Адмовіць у зацьвярджэньні кандыдатуры Савет мае права толькі адзін раз — паўторны вылучэнец на пасаду ў такім выпадку аўтаматычна садзіцца ў крэсла кіраўніка.

Такім чынам, застаецца толькі канстатаваць, што функцыі Саветаў у выніку рэформы зьведзеныя да мінімума.

## АМЭРЫКА ДАПАМАГАЕ БЕЛАРУСІ

Паводля зьвестак Дзяржаўнага Дэпартаменту ЗША, да 30-га чэрвеня 1994 году Злучаныя Штаты выдаткавалі прыблізна 227 мільёнаў даляраў на гуманітарную дапамогу, 6,2 мільёны — на тэхнічную і 3,3 мільёны — на дапамогу ў дэмантажы ядзернай зброі на Беларусі. Буйнейшымі накірункамі дапамогі ЗША для Беларусі зьяўляюцца гуманітарная дапамога, падтрымка Беларусі у час пераходу да рынкавай эканомікі і новага рэжыму бясьпекі.

У рамках праэкту па спэцыяльных мэдыцынскіх пастаўках ад студзеня 1994 году (калі першая партыя абсталяваньня і мэдыкамэнтаў была накіраваная ў дзіцячую бальніцу Менску у часе візыту туды першай лэдзі Гілары Родэм-Клінтан) да ліпеня 1994 году было палепшанае тэхнічнае абсталяваньне чатырох бальніцаў.

У 1994 годзе Міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША мяркуе выдзяліць да 20 мільёнаў даляраў на харчовую дапамогу Беларусі.

Сярод найбольш істотных праэктаў па аказаньню дапамогі у часе пераходу да рынкавай эканомікі трэба зазначыць наступныя праграмы: «Жанчыны й бізнэс у ЗША»; бізнэс-мэнаджмэнт для Беларусі; навучаньне па адміністрацыйных, арганізацыйных і прававых аспэктах прыватызацыі; навучаньне ў галіне тэлекамунікацыі ў ЗША; экспэрымэнт зьвязаны з добраўпарадкаваньнем глебы.

### БЯЗМЫТНЫ ГАНДАЛЬ З РАСЕЯЙ

У выніку перамоваў міністра зьнешнеэканамічных сувязяў Беларусі Міхаіла Марыніча і віцэ-прэм'ера Валерыя Кокарава з расейскімі віцэпрэм'ерамі Аляксандрам Шохіным і Сяргеем Саскаўцом, якія адбыліся ў Маскве, рэжым бязмытнага гандлю з Расеяй працягнецца да Новага году.

Нагадаем, што расейскі бок адмяніў мыта ў гандлі з Беларусьсю ў чэрвені сёлета ў сувязі з падпісаньнем былым урадам пагадненьня аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў. Тэрмін дзейнасьці бязмытнага рэжыму павінен быў скончыцца 1-га кастрычніка.

Пытаньне аб рэжыме гандлю ў 1995 годзе пакуль засталося нявырашаным.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*Навіны зь Беларусі*

## ДА МАГЧЫМЫХ ВЫБАРАЎ У САКАВІКУ ДЭМАКРАТЫ РЫХТУЮЦЦА ЗАГАДЗЯ

Як паведаміў старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Мячаслаў Грыб, наступныя выбары ў парлямэнт могуць адбыцца не раней як цераз чатыры з паловай месяцы пасля прыняцьця закону аб выбарах. Пры гэтым ён спаслаўся на меркаваньне старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандра Абрамовіча аб тым, што вызначэньне межаў выбарчых акругаў і іншыя падрыхтоўчыя работы зоймуць каля паўтары месяцы, яшчэ тры месяцы спатрэбіцца для правядзеньня передвыбарчай кампаніі. Як ведама, тэрмін паўнамоцтваў цяперашняга Вярхоўнага Савету спыніецца 26-га сакавіка 1995 году. На гэты-ж дзень спікэр прапаноўвае прызначыць і выбары.

Хоць канчатковы варыянт закону аб выбарах яшчэ ня прыняты, дэмакратычныя сілы ў Беларусі ўжо распачалі працу над дакумэнтам па стварэньню передвыбарчага блёку. Па словах лідэра Сацыял-дэмакратычнай Грамады Алега Трусава, партыі дэмакратычнага напрамку будуць імкнуцца не канкураваць між сабой, а выстаўляць у кожнай акрузе толькі аднаго кандыдата ад усіх партыяў. Ён таксама паведаміў, што перамовы аб стварэньні адзінага блёку вядуць Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Сялянская партыя, Партыя народнай згоды, Хрысціянска-дэмакратычная Злучнасьць, Нацыянальна-дэмакратычная партыя.

## ПРАДПРЫЙМАЛЬНІЦТВУ НА БЕЛАРУСІ — БЫЦЬ!?

17-га верасьня ў Менску адбылася асамблея дзелавых колаў Беларусі, на якой выступіў прэзыдэнт Рэспублікі Аляксандар Лукашэнка і выказаў урэшце свае адносіны да прадпрыймальнікаў і прадпрыймальніцтва.

У адрозьненьне ад передвыбарчых заяваў, у якіх кандыдат у прэзыдэнты Лукашэнка даволі нэгатыўна ставіўся да бізнэсмэнаў, называючы іх няйначай як спэкулянтамі, прэзыдэнт Лукашэнка зараз ставіцца да іх больш лагодна. У сваім выступленьні ён адзначыў, што «прадпрыймальнікі і камэрсанты ўжо даказалі, што яны зьяўляюцца актыўнай часткай нашай эканамічнай сыстэмы, і фармуюць новы грамадзкі пласт — сярэднюю клясу».

Аналізуючы эканамічную сытуацыю ў рэспубліцы, Лукашэнка заявіў, што «базісам праграмы выхаду з крызісу зьяўляецца рэзкае зьніжэньне ўзроўню інфляцыі». «Нам неабходна зьнізіць тэмпы інфляцыі да канца гэтага году да 11% у месяц, а ў другім паўгодзьдзі 1995 года да 7-8%. Якім чынам? Мы маем намер пераўтварыць разьліковы білет Нацыянальнага банку ў адзіны законны плацёжны сродак, а таксама стварыць спэцыяльны фонд для прадстаўленьня ільготных крэдытаў пад эканамічна-эфектыўныя дзяржаўныя праграмы,» растлумачыў прэзыдэнт.

Ведама, па-за ўвагай прэзыдэнта не засталася й праблема прыватызацыі. Аляксандар Лукашэнка адзначыў, што прыватызацыя павінна пачынацца на мікра-узроўні, паступова пераходзячы на больш высокія вытворчыя сфэры. Ён таксама даў зразумець, што прыватызацыя будзе праходзіць пад пільным кантролем дзяржавы. Даволі цьмяна выказаўся Лукашэнка наконт прыцягненьня іншаземнага капіталу: з аднаго боку ён прызнаў неабходнай і карыснай замежную інвэстыцыю, з другога — заўважыў, што ею ня варта злоўжываць і аддаваць перавагу трэба найперш айчынным бізнэсмэнам.

Беларускія бізнэсмэны лічаць, аднак, што тры цяперашніх непамерных падатках і шалёнай інфляцыі займацца вытворчасьцю на Беларусі нявыгадна. А калі ўлічыць абяцаньне прызыдэнта кантраляваць рост цэнаў на прадукцыю ўсіх вытворцаў, незалежна ад формаў уласнасьці, то робіцца зразумелым, што прадпрымальнікаў чакаюць нялёгкія часы. Праўда, у самым канцы прамовы Лукашэнка патэтычна заявіў: «Прадпрыймальніцтву на Беларусі — быць!» Вось толькі ці доўга?

## БАНКАЎСКІ КРЭДЫТ БЕЛАРУСІ

Па словах старшыні Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь Станіслава Багданкевіча, Эўрапейскі банк прыняў пастанову аб выдзяленьні Беларусі для крэдытнай падтрымкі малога і сярэдняга бізнэсу 30 мільёнаў даляраў, якія апынуцца ў руках трох рэспубліканскіх банкаў: «Прыёрбанку», банку «Беларусь» і «Белбізнесбанку». Ім, як найбольш устойлівым, давяраецца адбіраць і ацэньваць неабходнасьць фінансаваньня тых ці іншых праэктаў.

Вырашана і пытаньне аб выдзяленьні Сусветным банкам каля 70-х мільёнаў даляраў. Такая сума будзе атрыманая ў выпадку дасягненьня дамоўленасьці зь Міжнародным валютным фондам аб рэфармаваньні эканомікі Беларусі. Калі не — рэспубліка атрымае толькі 15 мільёнаў даляраў.

Ацэньваючы памеры грашовай дапамогі, Станіслаў Багданкевіч адзначыў, што лічыць гэтую суму дастатковай на дадзеным этапе. Тым больш, калі на патрэбы эканомікі рэспублікі пойдуць і тыя 200 мільёнаў даляраў, якія ляжаць на законных падставах на дэпазытах пад 3-5% гадавых у заходніх банках.

Каля двухсот мільёнаў даляраў выдадзена беларускімі банкамі ў форме крэдытаў. Праўда, для сваёй эканомікі яны занадта дарагія — пад дваццаць, трыццаць і нават болей працэнтаў гадавых. Выправіць такое становішча і напомніць беларускім банкам аб грамадзянскіх пачуцьцях, на думку старшыні Нацбанку, можа толькі адміністрацыйнае ўмяшаньне ў гэтую справу. І ён гатовы ісьці на непапулярныя меры дзеля інтарэсаў Рэспублікі.

## ПРАЭКТ ДЗІЦЯЧАЙ ДЭНТЫСТЫЧНАЙ КЛІНІКІ Ў МЕНСКУ

У верасьні сёлета споўнілася чатыры гады існаваньня Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Тут, у Лёндане, мы заўважылі, што стан зубоў у беларускіх дзяцей вельмі жахлівы. Унівэрсытэцкая клініка згадзілася даць лячэньне бясплатна. Прафэсар Заходня-Антарыйскага ўнівэрсытэту др. Джэральд Райт (Dr. Gerald Wright, Professor and Chairman, Orthodontic and Pediatric Dentistry, University of Western Ontario) пачаў акцыю заснаваньня дзіцячай дэнтысчынай клінікі ў Менску. Ён наведаў Беларусь і пабачыў вельмі прымітыўныя мэтады лячэньня. У выніку ягоных захадаў наш унівэрсытэт згадзіўся заняцца арганізацыяй такой клінікі. Праект распрацаваны на пяць гадоў. Кошт прыблізна 500.000 канадзскіх даляраў. Першы год пачатковыя выдаткі будуць прыблізна 12.000 даляраў. Унівэрсытэт зацікаўлены ў удзеле нашага грамадзтва пры запачатваньні гэтага праэкту. Калі мы зможам зрабіць пачатак, дык унівэрсытэт зоймецца зьбіраньнем фондаў на зьдзяйсьненьне гэтага праэкту. Камітэт пабудовы клінікі складаецца з наступных асобаў:

Dr. Barys Ragula, MD, CCFR, Retired Professor of Medicine, UWO, Chairman;

Dr. Gerald Wright, Professor of Dentristry;

Dr. Charles Ruud, Professor of Russian History;

Frederick J. Keenan, Ph.D., P. Eng., Director of International Academic Affairs;

Kathryn Potruff, International Affairs at UWO.

Я зьвяртаюся тут з заклікам да нашых грамадзскіх арганізацыяў, прыходаў ды прыватных асобаў дапамагчы зрабіць гэты важны пачатак. Няхай гэта будзе дар нашай дыяспары для беларускіх дзяцей на Бацькаўшчыне. Наш унівэрсытэт выдасьць пасьветчаньні для адлічэньня ахвяраваных сумаў пры аплаце падаткаў. Яны будуць важныя таксама для падатковых органаў у ЗША. Калі хто ня можа ахвяраць больш, няхай сабе будзе малы ўклад, але каб імя ахвярадаўцы апынулася на фундаменце гэтай клінікі. Я веру, што гэты праэкт зьдзэйсьніцца і мы ўсе будзем гордыя з гэтага.

Чэкі просім выпісваць на University Western Ontario, for Pediatric Clinic Miensk і слаць на адрас: Dr. B. D. Ragula, 579 Willowdale Ave., London, Ont. N5X-1J2, Canada.

## ПЕРАВЫДАНЬНЕ КНІГІ «НАВУКА Й РЭЛІГІЯ»

Супольнасьць Айцоў Марыянаў у Славакіі і варшаўскае Выдавецтва Айцоў Марыянаў перавыдалі кнігу а. Льва Гарошкі «Навука і рэлігія», якая ўпяршыню выйшла у Рыме ў 1977 годзе. Айцец Леў Гарошка — адзін з найвыдатнейшых рэлігійных дзеячаў беларускае эміграцыі. Пасьля вайны ён выдаваў у Парыжы часопіс «Божым шляхам», затым быў ігуменам дому Марыянаў у Лёндане, апошнія 8 гадоў свайго жыцьця ўзначальваў Беларускую сэкцыю Радыё Ватыкан. У сваёй кнізе а. Леў на прыкладах выказваньняў выдатнейшых навукоўцаў (астраномаў, прыродаведаў, фізыкаў, мэдыкаў і г.д.) імкнецца паказаць, што навука і рэлігія не зьяўляюцца антаганістычнымі паняцьцямі, што сучасная навука крок за крокам падцьвярджае існаваньне Бога. Пры гэтым аўтар спасылаецца на аўтарытэтных дасьледчыкаў у розных галінах веды. Кніга надзвычай актуальная цяпер, бо сучасная беларуская навука ў большасьці сваёй грунтуецца на марксыстоўскім пастуляце, што толькі навука зьяўляецца шляхам да пазнаньня сьвету, а рэлігія ня можа мець аніякіх адносінаў да практычных ведаў. На Беларусі кнігу а. Льва Гарошкі будзе распаўсюджваць Каталіцкая Грамада і рэдакцыя часопісу «Унія».

**Ігар Іваноў**

## ПАМЯЦІ ВЫДАТНАГА БЕЛАРУСА

Сёлета 31 кастрычніка спаўняецца два гады калі, пасьля цяжкой хваробы, памёр выдатны беларускі вучоны, грамадзкі й палітычны дзеяч Міхась Ткачоў.

Уклад Міхася Ткачова у беларусаведу надзвычай шыракадыяпазонны й пладавіты. Ягоны ўклад у сучаснае палітычнае жыцьцё на Бацькаўшчыне ды асабліва ў разьвіцьцё дэмакратычнага працэсу ў нашым грамадзтве вялізарны, аднак, яшчэ ня вывучаны — чакае глыбокага дасьледваньня.

Беларуская Энцыклапедыя, ягоныя блізкія сябры ды супрацоўнікі ды актывісты Беларускай Сацыялістычнай Грамады зрабілі ўжо выдатную працу ушанавалі памяць Міхася Ткачова зборнікам публіцыстыкі «Паходня» (Мінск, 1994), які не толькі зь цікавасьцю чытаецца, але зьяўляецца таксама добрым дапаможнікам у вывучэньні сёньняшняе Беларусі.

## ГРЭКА-КАТАЛІЦКІ МАНАСТЫР У ПОЛАЦКУ

У канцы ліпеня у Полацку айцы Студыты адчынілі першы на Беларусі грэка-каталіцкі манастыр, які названы Барысаглебскім. Ігуменам прызначаны малады іераманах а. Валерый з Украіны, які нейкі час працаваў у вясковай грэка-каталіцкай парафіі, а потым — зь дзецьмі й моладзьдзю ў Львове. Разам зь ім у Полацак прыехалі яшчэ два манахі — брат Алег і брат Павал, абодва беларусы. Манастыру належыць невялікі, але ўтульны цагляны дом з маленькім кавалачкам зямлі. Акрамя капліцы у манастыры будзе бібліятэка, пра што ўжо пачалі рупіцца ў Львове й Менску. Мяркуецца, што акрамя Полацку а. Валерый будзе яшчэ служыць у Віцебску.

**І. Іваноў**

# ТРЫ ТЫДНІ Ў БЕЛАРУСІ

### *У родных мясьцінах*

На аэрапорце Менск-2, 26 жніўня 1994 г, каля другой гадзіны папаўдні, лёгка прысеў самалёт.

Там ужо з нецярплівасьцю чакалі мяне пляменьнікі й прыяцелі мянчане. Узяло крыху часу, каб справіцца з афармленьнямі.

Нарэшце ўсё было залагоджана й мы рушылі да Дзетамлі, дзе чакалі родныя і аднавяскоўцы. Падарожжа праз Койданава, Мір, Карэлічы, Наваградак і Ўселюб трывала каля 4-х гадзінаў. Спаткалі мяне брат зь дзяцьмі і ўнукамі ды дзеці сястры, якая памерла не дачакаўшы мяне, 40 дзён ды прыезду.

Першая мая спасьцярога была, што колькасьць жыхароў у вёсцы зьменшылася за апошнія два гады, калі я наведаў яе першы раз. Вёска Дзетамля, бацькаўшчына майго дзяцінства, налічвала больш за 40 дамоў. У сьнежні 1942 г. была спаленая немцамі. Пасьля вайны яна адбудавалася, але колькасьць дамоў зьменшылася на палову й была ўлучаная ў Ацьмінаўскі калгас. Цяпер у вёсцы жывуць пераважна пэнсіянэры. Мала працаздольных людзей. Дзяцей малых у вёсцы навогул няма. Маладое пакаленьне (народжаныя пасьля вайны) пакінула сваю вёску, старэйшыя паміраюць, а дамы стаяць пустыя, у тым ліку й дом мае сястры.

Разгледзеўшыся вакол вёскі я заўважыў, што вораная зямля зьменшылася прынамсі на адну трэць, яе засадзілі лесам.

### *У Менску*

Запрашэньні на сустрэчу, якая мела адбыцца 2-га верасьня у Музэі Янкі Купалы, былі разасланыя менскім грамадзкім клюбам «Спадчына».

У клюбе сабралася менскае грамадзтва. У залі, на сьценах, былі вывешаныя 30 партрэтаў дзеячоў эміграцыі. Старшыня клюбу «Спадчына» Анатоль Белы прадставіў мяне ды расказаў прысутным аб маёй дзейнасьці ў Аргентыне й Амэрыцы, ды аб кнізе «Дзейнасьць Кастуся Мерляка на Эміграцыі».

Я коратка прыпомніў важнейшыя эпізоды свайго жыцьця на эміграцыі.

Пасьля забіралі голас Леанід Лыч, доктар гістарычных навук і прафэсар, Валеры Санько, дырэктар Выдавецкага Таварыства «Хата», Яўген Ціхановіч ды іншыя прадстаўнікі культуры й грамадзка-палітычныя дзеячы.

Пасьля пытаньняў і адказаў адбылíся выступленьні, сяброўскі пачастунак ды я шмат каму падпісваў сваю кнігу.

### *Спатканьні з афіцыйнымі асобамі*

У нядзелю, 4-га верасьня, адбылося спатканьне з Высокапрэасьвяшчэнствам Мітрапалітам Менскім і Слуцкім Філарэтам у яго прыватнай рэзыдэнцыі.

У чацьвер, 8-га верасьня, адбылося спатканьне з Генадзям Бураўкіным намесьнікам Міністра Культуры й Друку і спадарыняй Юліяй Бураўкінай.

У пятніцу, 9-га верасьня адбылося спатканьне із спадаром Уладзімерам Сяньком, Міністрам Замежных Справаў Рэспублікі Беларусь.

У сераду, 14-га верасьня гг. адбылося спатканьне із спадаром Леанідам Сініцыным, Кіраўніком Адміністрацыі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь у Доме Ўраду, а пазьней я сустрэўся з



*Віктар Ганчар і Кастусь Мерляк*

спадаром Віктарам Ганчаром Заступнікам Прэм'ер-Міністра.

Усе высакапастаўленыя сябры Ўраду першага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь спадара Аляксандра Лукашэнкі запэўнялі, што па меры магчымасьці будуць працаваць і дзеяць у інтарэсах Сувэрэннай Беларусі, адраджэньня беларускай культуры й мовы ды эканамічнага разьвіцьця у Беларусі.

### Іншыя сустрэчы

Я таксама сустракаўся з доктарам Андрэям Майсеёнкам, намесьнікам старшыні Камісіі Грозенскага абласнога Савета Народных Дэпутатаў, з Сакратаром Рады т-ва «Бацькаўшчына» Лідзіяй Савік, з дырэктарам Цэнтру Ф. Скарыны Адамам Мальдзісам, з кіраўнікамі Комплекс Банку на чале з Валерыям Бурбо, з дырэктарам Навукова-Інвэстыцыйнай Кампаніі «Протон-Захад» Андрэям Гусаковым, з Вацлавам Багдановічам, прэзыдэнтам кампаніі «Тэхналёгія».

8-га верасьня ў Менску меў прыемную нагоду ўдзельнічаць у дэманстрацыі ў адзначэньне 480-ай гадавіны Аршанскай бітвы.

10-га верасьня адбыўся Сойм Беларускага Народнага Фронту, на якім разглядаліся наступныя справы: аналіз выбараў прэзыдэнта, у якой меры супрацоўнічаць з цяперашнім урадам, пляны дзеяньня на прышласьць і г.д. Асаблівая ўвага была зьверненая на парлямэнцкія выбары, бо кадэнцыя цяперашняга Вярхоўнага Савету канчаецца ў сакавіку 1995 году. Меў нагоду тутака спаткацца з пісьменьнікамі В. Быкавым і Г. Барадуліным, а таксама з кіраўнікамі Беларускага Народнага Фронту.

### *Агульнае ўражаньне*

Новы ўрад сфармаваны першым прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам, які складаецца пераважна з маладых людзей, атрымаў у спадку дзяржаву ў цяжкім эканамічным палажэньні. Папярэдні ўрад Кебіча сваёю бязьдзейнасьцю, ня толькі затрымаў прагрэс на тры гады, але адступіў назад з дэмакратызацыяй, эканамічнымі рэформамі й пераходам да вольнага рынку. Прэзыдэнт, як і яго ўрад, выйшаўшы з-пад таталітарна-каманднай сыстэмы, ня мае дасьветчаньня ў кіраваньні дэмакратычнай дзяржавай, тым больш незалежна кіраваць эканамічным жыцьцём краіны. Наступныя выбары дэпутатаў будуць першымі дэмакратычнымі парлямэнцкімі выбарамі ў Беларусі. Ад гэтых выбараў будзе залежыць будучыня беларускага народу.

Сяньня расейскія вялікадзяржаўніцкія сілы з Масквы, пры помачы расейцаў пражываючых у Беларусі, намагаюцца ўсякімі спосабамі ўцягнуць Беларусь у Расейскую Фэдэрацыю, выкарыстоўваючы нацыянальную маласьведамасьць беларусаў.

Будучыня Беларусі будзе забясьпечана, калі дэмакратычныя напрамкі абяднаюцца ў адзін блёк і выбяруць больш палавіны дэмакратычных дэпутатаў. Трэба спадзявацца, што кіраўнікі дэмакратычных арганізацыяў зразумелі, што нацыянальныя інтарэсы павінны ставіцца вышэй сваіх собскіх амбіцыяў. Павароту назад ужо ніколі ня будзе. А гэтым разам сам народ да гэтага не дапусьціць. Гэта паказала дэманстрацыя падчас адзначэньня 480-х угодкаў перамогі пад Оршай!

**Кастусь Мерляк**

# Сардэчная падзяка!

Ад 15-га жніўня да 15-га верасьня сёлета дэлегацыя Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» у складзе прэзыдэнта й старшыні Рады пабывала са службовым візытам у ЗША і Канадзе для азнаямленьня зь дзейнасьцю беларускіх суполак у гэтых краінах, а таксама для ўдзелу ў 21-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

У час нашага вандраваньня мы мелі магчымасьць пабываць амаль ва ўсіх беларускіх асяродках, сустрэцца з людзьмі, правесьці перамовы, пазнаёміцца з рознымі аспэктамі жыцьця ў краінах, якія сталі другою радзімаю для нашых суродзічаў. Усё гэта дало вельмі патрэбную інфармацыю для нашай працы, наблізіла нас да тых людзей, дзеля якіх і была створана наша грамадзкая арганізацыя і для каго цяпер мы павінны працаваць, умацоўваючы беларускую прысутнасьць у сьвеце.

Усюды мы сустракалі самыя цёплыя, сардэчныя адносіны, канкрэтную дапамогу і маральную падтрымку. Далёка за акіянам, мы пачувалі сябе як дома, сярод родных і блізкіх людзей. Амэрыканскія і канадыйскія беларусы ня толькі захавалі сваю мову й культуру на чужыне, але і сумленна працавалі на карысьць тых дзяржаў, якія далі ім прытулак у той час, калі свая Бацькаўшчына не зважала на сваіх дзяцей. А сёньня яны імкнуцца дапамагчы радзіме, чым могуць.

Вярнуўшыся ў Беларусь, мы захоўваем у сваіх сэрцах самы цёплы ўспамін пра сяброў за акіянам і хацелі-б праз газэту выказаць шчырую ўдзячнасьць усім тым, хто дапамагаў нам у арганізацыі гэтага візыту, найперш, Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню, Згуртаваньню Беларусаў Канады, а таксама асабіста спадаром: Антону Шукелайцю, Вітаўту і Зоры Кіпель, Янку Запрудніку, Альле Орса-Рамана і яе сям'і, сям'і Андрусышыных і Яніне Каханоўскай, Раісе Станкевіч, сям'і Верабей, Янку Юхнаўцу, Кастусю Мерляку ды др-ру У. Набагезу зь Нью-Ёрку; сп. Галіне і Васілю Русакам, Янку і Юрку Азаркам, сям'і Сільвановічаў зь Нью-Бранзьвіку; сп. Юрку Навумчыку і грамадзе з Саўт-Рывэру; сп. Вользе і Масею Сядневым з Глен-Коў; сп. Васілю Мельяновічу з Гановеру, Пэнсыльванія; з Клīўленду — сп. Кастусю Калошу, Янку Ханенку, Янку Раковічу, Еве Ераховіч, Вользе Лукашэвіч, Тацьцяне Кананчук, Валяньціне Яцэвіч, сям'і Анатоля Лук'янчыка, сям'і Сяргіевічаў, айцу Страпко, сп-не Іне Каханоўскай, Зосі і Янку Шымчыкам, Яўгену Кабяку, Славу Карніловічу; спадарству Ірыне і Расьціславу Завістовічам у Вашынгтоне; Льву і Клаве Кавалёвым у штаце Мэрыленд; сям'і Веры і Мікалая Пруcкіх у штаце Мішыган; шматлікай беларускай грамадзе ў Чыкага — др. Вітаўту і Веры Рамук, Нікадыму Жызьнеўскаму, спадарыням Ірэне Панунэвіч і Людвізе Бяленіс, сп. Каленіку, яго жонцы Марыі і сыну Юрку, сп. М. Латушкіну, сп. Яканюку, сп. Анатолю Занковічу, спадарству Махначом, Д. Штэфелю і інш; у Канадзе — уладыку Мікалаю, спадарству Марыі і Міколу Ганько, д-ру Барысу Рагулю, сям'і Івонкі і Янкі Сурвілаў, д-р Раісе Жук-Грышкевіч, спадарству Галіне і Аляксандру Максімюкам, сп. А. Моніду.

Жадаем усім вам добрага здароўя, посьпехаў у справах і запрашаем наведаць Беларусь і сядзібу ЗБС «Бацькаўшчына» у горадзе Менску, на вул. Рэвалюцыйнай (Койданаўскай), 15, тэл. 76-91-94.

Будзем радыя вітаць Вас на роднай зямлі і акажам Вам і ўсім іншым, хто пажадае прыехаць, неабходную дапамогу, спрыяньне ў арганізацыі вашага побыту ў нас.

**Прэзыдэнт ЗБС «Бацькаўшчына»,**
**Радзім Гарэцкі;**
**Старшыня Рады,**
**Ганна Сурмач**

# ПАМЯЦІ а. ФАБІЯНА АБРАНТОВІЧА

Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква ўрачыстай літургіяй 11-га верасьня сёлета ў менскай капліцы пачала год сьвяткаваньняў 110-гадовага юбілею айца архімандрыта Фабіяна Абрантовіча. У часе Літургіі быў зачытаны прывітальны ліст гэнэральнага ігумена Зграмаджэньня Айцоў Марыянаў а. Адама Банэцкага з Рыму, у якім між іншым сказана: «Айцец Фабіян належыў да ліку выдатных марыянаў, якія побач з Блаславёным біскупам Юрыям Матулевічам працавалі над разьвіцьцём аднойленага Зграмаджэньня Марыянаў. Ён мае вялікія заслугі ў справе адраджэньня марыянаў на Беларусі. Провід Божы даручыў яму таксама кіраваньне Грэка-Каталіцкай Місіяй у Гарбіне. Сваё працавітае жыцьцё скончыў ён пакутніцкаю сьмерцю з рук бальшавікоў за вернасьць царкве. На жаль, нам сёньня невядома, калі і дзе дакладна памёр ці быў забіты айцец Фабіян. Няхай сьветлая постаць айца Фабіяна заахвочвае ўсіх Вас да руплівай працы над адраджэньнем і разьвіцьцём вашае Царквы».

Да юбілею а. Абрантовіча Выдавецтва часопісу «Унія» выдала адмысловую брашуру, якая дасылаецца ўсім жадаючым задарма.

**Ігар Іваноў**

# МІЖНАРОДНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У БОСТАНЕ



*Фрагмэнт беларускай выставы. Фота А. Сільвановіча*

Сёлетні Міжнародны Фэстываль у Бостане быў трэйцім па чарзе й першым, у якім Беларусы прынялі ўдзел. Фэстывалі пачаліся ў 1992 годзе й паказалі хуткі рост наведвальнікаў: калі першы фэстываль наведала 50,000 асобаў, дык у 1993 годзе было ўжо панад 60,000 наведвальнікаў. У фэстывалях гэтых бярэ ўдзел больш за 80 этнічных групаў. Мэта фэстываляў — знаёміць і адукаваць дзяцей і дарослых аб геаграфіі сьвету ды культурным багацьці розных народаў. Сёлетні Фэстываль трываў 6 дзён ад 5-га да 10-га кастрычніка й наведала яго больш за 70,000 асобаў. Асаблівая ўвага была прысьвечана дзецям-школьнікам — пачаць уводзіць іх у шмат-нацыянальнае асяродзьдзе.

Пачатковыя захады для ўдзелу беларусаў у Фэстывалі зрабіў малады амэрыканец беларускага паходжаньня з Бостану Джо (Язэп) Пацэвіч. Было дагаворана са сп. Пацэвічам, што беларусы зь іншых штатаў Амэрыкі, асабліва Нью-Джэрзы й Нью-Ёрку дапамогуць у зборы экспанатаў на выстаўку ды яе абслугоўваньні. Неспадзявана, сп. Пацэвіч выехаў на працу ў Беларусь і даручыў вядзеньне выстаўкі сп-ні Галіне Русак. У Камітэт выстаўкі ўвайшлі: сп.сп. Ст. Строен, П. Андрухаў, П. Белагор і Дж. Здановіч з Бостану й А. Орса-Рамана, В. Русак, А. Сільвановіч, С. Трыгубовіч і Ул. Адашкевіч з Нью-Джэрзі, Нью-Ёрку й Пэнсыльваніі.

Нам была прыдзеленая сэкцыя памерам 40 фт. на 30 фт., завешаная з трох бакоў, з трыма сталамі на фронце. На сьценках-загародах былі вывешаныя лепшыя абразы беларускіх мастакоў Амэрыкі, Канады й Беларусі. Сталы былі засланыя прыгожымі тканымі посьцілкамі, а на іх былі раскладзеныя вырабы з саломкі й ільну, лакіраваныя шкатулкі, калекцыі беларускіх паштовых марак і кнігі. Быў цікава прадстаўлены працэс «ад ільну да палатна». З краю адной сьцяны была прадстаўленая трагэдыя «ЧАРНОБЫЛЯ» праз фатаграфіі сп. А. Кляшчука, фатографа зь Беларусі.

Першыя паўтары дні выстаўка была ў аснаўным прызначана для школьнай моладзі. Кожны вучань меў «пашпартную» кнігу і стараўся дастаць у розных нацыянальных павільёнах «візу», гэта значыць пячатку ці проста напісаны назоў краіны, да якой належала выстаўка. Трэба прызнаць, што гэта быў добра прадуманы спосаб зацікавіць амэрыканскіх школьнікаў рознымі краінамі сьвету. Тым, што прыбівалі пячаткі ці падпісвалі «візы», прышлося добра папрацаваць, бо школьнікаў было ня сотні й ня тысячы, а хіба дзесяткі тысячаў.

Наш павільён прыцягнуў шмат сур'ёзных наведвальнікаў, якія далі выстаўцы высокую ацэнку, лічачы яе адной з найлепшых па падбору тэмаў ды якасьці экспанатаў. Цікава, што паштовыя маркі Беларусі, Чарнобыль ды працэс апрацоўкі льну і саломкі выклікалі хіба найбольшае зацікаўленьне.

**Васіль Русак**

# ШМАТКУЛЬТУРНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У БЭРЫ

У канадыйскім горадзе Бэры, што ляжыць напоўнач ад Таронта, кожны год ладзяцца шматкультурныя фэстывалі. Сёлета такі фэстываль адбыўся 28 верасьня. Узяло ў ім удзел дваццаць этнічных групаў. Між імі шкоты, ірляндцы, немцы, аўстрыякі, грэкі, славяне й іншыя, не эўрапэйскія народы. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ўжо чацьверты год бярэ ўдзел у фэстывалі. Для беларускае выставы адведзена было ў залі вельмі адпаведнае, на самым відку, мейсца.

Павільён наш абымаў тры вялікія, накрытыя багатымі арыгінальнымі беларускімі тканінамі, сталы. Сярэдні, цэнтральны быў прысьвечаны Еўфрасіньні Полацкай. Вялікі абраз Асьветніцы-Сьвятое, выкананьня беларускае мастачкі з Атавы Івонкі Сурвілла, дамінаваў і надаваў тон усёй выстаўцы. Тонкае мастацтва й прыгажасьць абраза, што зьвяртала ўвагу наведвальнікаў, падкрэсьліваў пышны Слуцкі пояс. Той самы Слуцкі пояс, якім быццам ногі Хрыста апаясала Беларускі Крыж, у часе паломніцтва да Яго, спадарыня Ганна Сурмач. Пласка-разьба на срэбры выявы князёўны Прадславы-Еўфрасіньні Полацкай створана ў ЗША на адзначэньне 800-х угодкаў сьмерці Сьвятое, колерная фатаграфія Еўфрасінеўскага Крыжа, фатаграфіі фрэскаў галоўкі Еўфрасіньні із Спасаўскае царквы Еўфрасінеўскага манастыра ў Полацку, ды інш.

Бакавы стол расказваў наведвальнікам пра багатае калярытам і формай беларускае народнае адзеньне. Тон надавалі тут чатыры лялькі, тры зь іх з валокнаў ільну, чацьвертая — падарак спадарыні Валі Мазура з Чыкага. Вялікую цікавасьць прадстаўлялі шаснаццаць, люксуснага выданьня, абразкоў жаночнага й мужчынакага адзеньня разных рэгіёнаў Беларусі. Як аўтары альбому Міхась Раманюк і Уладзімір Савіч зазначаюць, найболей характэрныя строі гэта маларыцкі, кобрынскі, пухавіцкі, мотальскі, дубровенскі, калінкавіцкі, ляхавіцкі, навагрудзкі й іншыя. Вялікая ваза з інкрустацыяй саломкі на дрэве, ды шкатулка — падарак ад сп-ні Ганны Сурмач, дадавалі цікавасьці выставачнаму гнязду.

Другі бакавы стол гаварыў аб красе беларускай прыроды, аб беларускім выяўленчым мастацтве, архітэктуры. Пагоня, выкананая мастачкай Івонкай Сурвілла на 1000-годзьдзе Беларусі, кнігі, паштоўкі Беларускага Крыжа і інфармацыйная літаратура пра Беларусь у лістоўках, карта Беларусі былі зьместам гэтага выставачнага стэнду.

Беларускі павільён меў посьпех. Людзі цікавіліся, задавалі пытаньні і арганізатар яго, др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня ККБК, усьцяж давала інфармацыі пра Беларусь, яе гісторыю й культуру.

Таксама бел-чырвона-белы сьцяг і напіс "BELARUS" абвяшчалі, чыю культуру рэпрэзэнтуе гэты прыгожы й цікавы зьместам павільён.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ГАДАВЫ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА НЬЮ-ЁРК

15 кастрычніка у Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага адбыўся чародны гадавы (перавыбарчы) сход аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку. Пасьля зьмястоўнае справаздачы ды пазытыўнага абмеркаваньня справаў Аддзелу была выбраная новая ўправа ў складзе: А. Міцкевіч — старшыня; Ф. Бартуль — заступнік старшыні; Э. Рыжы — сакратар; В. Запруднік — англамоўны сакратар; З. Левіт — скарбнік. У рэвізыйную камісію выбраныя: Р. Станкевіч і К. Верабей.

У пляне дзейнасьці на будучы год падкрэсьленая патрэба прыцягненьня ў арганізацыю новых сяброў, асабліва малодшага пакаленьня эмігрантаў.

## У КАЗАКАЎ КУБАНІ

У нядзелю 9-га кастрычніка сёлета адбылася падвойная ўрачыстасьць у Паўднёвым Нью-Джэрзі: урачыстая Божая Служба ў Парахвіі Сьвятой Тройцы ў Дораты ды высьвячэньне будынку Музэю пры клюбе Кубанскіх Казакаў. Божую Службу й акт Высьвячэньня Музэю выканаў Архімандрыт БАПЦ а. Карп, які ёсьць і духоўным апякуном Станіцы. Заля Казацкага Клюбу была прыгожа ўдэкараваная партрэтамі казацкіх правадыроў і абразамі зь гісторыі казацкага народу. Там, у залі адбылося прыняцьце, на якім прысутнічалі й беларусы. Гэта было добрай нагодай пазнаёміцца зь кіраўнікамі прыязнага да нас казацкага руху.

**В. Русак**

*З архіваў БНР*

## ПЁТРА КРЭЧЭЎСКІ ЯК ПУБЛІЦЫСТ І ПАЭТ

У сёлетнім 10-11 сшытку бюлетэня Акта Архівалія Альбарутэніка, які рэдагуецца сп. Сяргеем Шупа ды друкуецца ў Вільні, выдрукаваныя вельмі цікавыя матар'ялы са спадчыны Пётры Крэчэўскага, першага старшыні Рады БНР ды выдатнага беларускага палітычнага дзеяча, якія знаходзяцца ў Вільні ў архівах Рады БНР (архівы В. Ластоўскага). Перадрукоўваем гэтыя матар'ялы, бо яны тычацца беларусаў ЗША (захоўваецца правапіс арыгіналу).

**Верш Пятра Крэчэўскага й адозва да беларусаў Злучаных Штатаў і Канады [11.01.1922] (582,1,43:155-156)**

*— «Адозва:*

*Беларусы Злучаных Штатаў і Канады*

*Настаў час, калі нам патрэбны і Вашы сілы. На Бацькаўшчыне і ў Эўропе мы ужо усьвядомілі усіх, што Беларускі народ жыве і патрэбуе сабе мейсца паміж усімі народамі. Амэрыка, да голасу якой прыслухаецца і Эўропа, павінна па загаду Вашаму, беларусы Амэрыкі і Канады, сказаць так сама і сваё слова. Вы павінны памагчы нам і маральна і матэрыяльна здабыць незалежнасьць Беларусі. Толькі праз нацыянальнае і дзяржаўнае адраджэньне можэ прыйсьці да нас земля і воля.*

*Добрае слово спачуцьця і падтрыманьня, кожны лішні цэнт, афяраваны вамі на вызваленьне Бацькаўшчыны з-пад польскай акупацыі, як камянь за камням будуць узмацовываць фундамант нашай незалежнасьці.*

*Закладайце фонды «Вызваленьня Бацькаўшчыны» і памагайце, хто чым можэ, абліваючымся крывёю у барацьбе братом.*

*Добрыя сыны ніколі не забудуць сваей маткі Беларусі, дзе-б яны ні былі. Досыць быць парабкамі і працаваць на чужынцоў, прыйшла пара памагчы і свайму роднаму краю».*

*—«Пара сынам і на чужыне*
*Злажыць хоць трохі грошы тым,*
*Хто ў бойцы за свабоду гіне*
*Па турмам польскім і другім.*
*Пара злажыць фонд «Вызваленьня»*
*Газэты трэба выдаваць*
*Ніхай да волі ў вас імкненьня*
*Паможа нам на ногі ўстаць.*
*Чаму-ж вялікай грамадою*
*Раскінуўшысь усюль па Штатам*
*Мы не клапоцімось нудой;*
*Пануе што па нашым хатам.*
*Амэрыканскі беларус.*
*Скажы, ты жыў, і волю любіш.*
*Так я свабодаю завусь,*
*Мяне напэўна ты не згубіш.*
*Зьбірай патроху, памагай,*
*Рабі ўсе так, як робяць людзі,*
*Хутчэй тады настане рай*
*І адпачынуць рукі, грудзі...»*

Часапіс Спадчына, які выдаецца ў Менску ў нумарох 1, 2 за 1993 год выдрукаваў гэтаксама матар'ялы з публіцыстычнай і паэтычнай спадчыны Пётры Крэчэўскага.

Дадамо, што калі-б Пётра Крэчэўскі жыў сягоньня, напэўна яму было-б прыемна, што Фонд Дапамогі Беларусі (сёньняшні фонд Адраджэньне) дзеіць ды, што ў Амэрыцы дзейная фундацыя названая ягоным імем.

# У ПОШУКАХ ЭМІГРАНЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

*(Працяг; пачаткі ў № 404, 407, 410, 415)*

У верасьні сёлета нашыя пошукі эмігранцкай літаратуры завялі нас аж у Нямеччыну. Чаму Нямеччына? Папершае, мы ўжо даўно вырашылі, што трэба некалі зьведаць архівы Нямеччыны, а па-другое была добрая нагода, якую грэшна было-б абмінуць. Былі мы запрошаныя на канфэрэнцыю ў Трокі, што цяпер у Ліцьве, на гэтак званую Рым-5. Ляцелі на канфэрэнцыю праз Нямеччыну і вырашылі затрымацца там на колькі дзён і зрабіць прынагодна яшчэ адну справу — на пэнсыі трэба ўжо камбінаваць і шанаваць капейкі.

Насамперш мусілі заехаць у Бон, у Беларускую амбасаду, каб атрымаць дазвол наведаць архівы сп. Юрага Попкі, якія па ягонаму тэстамэнту перададзеныя былі Незалежнай Беларусі, але знаходзяцца пад адміністрацыйным кантролем гарадзкіх уладаў Ляйману (невялічкі горадок каля Гайдэльбэргу). Мелі прыемную нагоду зноў спаткацца з амбасадарам Пётрам Садоўскім, зь якім ужо некалі спатыкаліся ў Нью-Ёрку. Беларуская амбасада зрабіла на нас вельмі прыемная ўражаньне — прыгожы асабняк, непадалёку Бундэстагу, прыемныя працаўнікі, дзелавая атмасфэра. Сп. Садоўскі залагодзіў усе фармальнасьці, накіраваў нас на патрэбную дарогу, і ў Ляймане нас ужо чакалі.

У архіве Юрага Попкі мы ўжо былі, але тады наш праэкт быў у зачатках, дык зрабілі толькі беглы агляд літаратуры. Нажаль і цяпер нам давялося аглядаць эміграцкія публікацыі толькі па загалоўнай бачынцы, праз шкло, бо бальшыня матар'ялаў замкнутая ў шафах і габлётках. Але тоесёе усе-ж удалося знайсьці й запісаць, асабліва публікацыі самага Ю. Попкі, якія тут, зразумела, у поўным зборы й парадку. Сам музэй, бо гэта больш музэй чымся архіў, у добрым даглядзе. Цікавыя экспанаты беларускай народнай культуры, і цэлы пакой — выстава эміграцкай літаратуры.

Наступная нашая візыта была да сп-ні Надзі Касмовіч. Сп-ня Касмовіч, хоць і нездаровая, нас вельмі цёпла прыняла. Расказвала пра іхнае жыцьцё й працу, пра часы добрыя і пра часы цяжкія. Спадарства Касмовічы былі дзейныя ў розных міжнародных антыкамуністычных арганізацыях у па-ваеннай Нямеччыне і за гэта давялося ім пацярпець. Сп. Касмовіч няўпынна публікаваў і ў яго архівах мы знайшлі шмат, шмат цікавага й карыснага. Дапоўнілі камплеты часопісу «Бацьцба», які ён выдаваў рэгулярна ад 1955 да 1981-га году, і якіх у нас шмат недаставала. Знайшлі нават некаторыя публікацыі Ю. Попкі ды іншыя раньнія эміграцкія публікацыі ў Заходняй Нямеччыне. Самым цікавым, аднак, былі дакумэнты й матарялы з палітычнай дзейнасьці Дзьмітра Касмовіча, якія значна дапоўняць нашую бібліяграфію.

Назаўтра схадзілі са сп-няй Надзей Касмовіч на магілку Дзьмітры Касмовіча і аддалі пашану яго памяці.

Пакідалі Нямеччыну з пачуцьцём задаваленьня, хоць і ня было нам больш часу наведаць гэтым разам яшчэ пару асобаў, якія маюць добрыя прыватныя калекцыі беларускай эміграцкай літаратуры, але спадзяемся, што ў гэтую ветлую краіну яшчэ завітаем.

Амаль адразу-ж як вярнуліся зь Нямеччыны, падаліся зноў у падарожжа, балазе што мы зь Вітаўтам так дабраліся, што падарожнічаць абое любім, асабліва калі пры гэтым робіцца нешта беларускае, ды, дзякаваць Богу, можам яшчэ сабе гэта дазволіць.

Накірунак наш быў Кліўленд – Індыяна – Чыкага.

Да Кліўленду мелі спадарожніка, Анатоля Кляшчука, фатографа зь Менску, які меў добрую нагоду пабачыць амэрыканскія краявіды і прыгожыя восеньскія колеры. Колькі разоў затрымліваліся пры дарозе і ён усё «шпокаў».

У Кліўлендзе абмеркавалі з Кастусём Калошам праэкт, над якім ён цяпер працуе — зьбіраньне матар'ялаў і дакумэнтаў да гісторыі Кліўлендскай калёніі.

У невялічкі гарадок Сыракюз мы ехалі па прыгожых маляўнічых ваколіцах штату Індыяны, міма добраўпарадкаваных палёў і белых хатак калёніі Аміш. Часта па дарозе пападаліся конныя брычкі.

У Сыракюз нас ветла спаткала сп-ня Кацярына Пунтус, зь якой мы раней ня былі знаёмыя, але адразу-ж адчулі сябе, як старыя знаёмыя. Упарадкавалі ў яе архівы нябожчыка Васіля Пунтуса і пераслалі іх у амэрыканскі Дасьледчы Цэнтар Гісторыі Эміграцыі, які знаходзіцца у штаце Мінэсота. Былі гэта пераважна матар'ялы зь гісторыі Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, найстарэйшай беларускай арганізацыі ў Амэрыцы.

У Чыкага правялі тры поўныя дні з дарагімі ўжо для нас спадарынямі Ірэнай Пануцэвіч і Людвікай Бяленіс. Нідзе мы гэтак добра ня чуліся як зь імі — гэта сапраўды выключныя людзі, выключная сям'я — здольныя, разумныя, ветлыя, гасьцінныя. Мэтай нашай было разьмеркаваць абшырную беларускую калекцыю кнігаў, часопісаў, рукапісаў і архіўных матар'ялаў Будзькаў-Пануцэвічу-Бяленісаў.

Частка матар'ялаў пойдзе ў мясцовыя бібліятэкі, частка перадасца ў Беларусь, а добрая частка — 7 важкіх скрынкаў — з ахвярнай дапамогай сп. Нікодыма Жызьнеўскага перасланая ўжо ў названы вышэй Цэнтар Гісторыі Эміграцыі.

У часе перагляду матар'ялаў знайшлі яшчэ шмат патрэбных і для сябе часапісаў і кніжак. Асабліва шчасьлівыя былі, што ўдалося папоўніць камплеты некалькіх пэрыядычных эміграцкіх выданьняў.

Вельмі было прыемна зноў спаткацца са спадарствам Рамукамі і са сп. Фрэдам Рамуком зь Беларусі. На вялікі жаль, запланаваная сп-няй Верай Рамук тэлевізыйная праграма, у якой мы мелі гэтаксама браць удзел, не адбылася з прычыны хваробы вядучага. Але агульна, паездка была вельмі памысьнай і прыемнай.

Прынагодна падамо яшчы раз дакладны адрас Цэнтру, калі хто зацікавіцца перадаць туды свае архівы для перахаваньня й выкарыстаньня: Immigration History Research Center, University of Minnesota, 826 Berry Street, St. Paul, MN 55114.

**Зора Кіпель**

## КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ТРОКАХ



*Беларуская дэлегацыя на канфэрэнцыі ў Троках, зьлева направа: (стаяць) Зора Кіпель, Уладзімер Конан, Захар Шыбека; (сядзяць) Уладзімір Снапкоўскі, Алег Трусаў, Адам Мальдзіс, Вітаўт Кіпель.*

Ад 10-га да 14-га верасьня ў Троках адбывалася канфэрэнцыя прысьвечаная вывучэньню Вялікага Княства Літоўскага. Фактычна гэта была канфэрэнцыя ў сэрыі навуковых сымпозыюмаў запачаткаваных у Рыме ў 1900-м годзе, сёлетняя з нумарам РЫМ-5. Папярэдняя, як ведама, адбывалася ў Горадні летась.

У канфэрэнцыі бралі ўдзел шмат навукоўцаў зь Менску, а з ЗША членамі беларускае дэлегацыі былі сп.сп. Вітаўт і Зора Кіпель. Беларускай групай было прадстаўлена каля дзесятка дакладаў на розныя аспэкты гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

### *У гасьцёх у Беларускай Школе ў Вільні*



*Настаўнікі Беларускай Школы ў Вільні з гасьцямі. У цэнтры дырэктар школы сп-ня Галіна Сівалава.*

Некалькі сяброў беларускай дэлегацыі на канфэрэнцыі ў Троках адведалі Беларускую Школу ў Вільні, якая сёлета пачала першы навучальны год. У школе каля 140 вучняў, якія займаюцца ў 12-х клясах. У школе беларуская мова навучаньня зь лекцыямі зь літоўскай мовы літаратуры й гісторыі.

## ПАЎЛА ПРАКАПЕНІ

Прачытаўшы ўспаміны др. Я. Запрудніка аб сьв. пам. Пётру Конюху («Беларус» № 415) прыпомніў я яшчэ аднаго беларускага сьпевака — Паўла Пракапені (Пракаповіча).

Нарадзіўся ён, здаецца, на Палесьсі. Пракапені — гэта прафэсыйнае прозьвішча. Паўла Пракаповіч сьпяваць пачаў яшчэ перад вайной. Абдараны быў цудоўным голасам-барытонам. Сваімі сьпевамі і мілагучным голасам зьвярнуў на сябе ўвагу ды паехаў у Варшаву, дзе выступаў на розных канцэртах, у клюбах.

Пачалася война. Праз Балканы, мора, дабраўся ён да Палестыны, дзе былі часткі польскага войска. У Палестыне, аднак, апынуўся ў ... турме.

У саракавых гадох, у Палестыне, праваслаўны сьвятар а. Іан Савіч (беларус) — калішні капэлян у польскім 2-м корпусе, расказаў мне наступную гісторыю.

У 1940 ці 1941 годзе а. Іан паехаў у турму ў Акрэ (Accre) у паўночнай Палестыне, каб адведаць праваслаўнага чалавека. Гэтым чалавекам быў П. Пракапені. Аказалася, што паляікі пасадзілі яго ў турму за тое, што ў 1939-м годзе ён сьпяваў перад савецкімі салдатамі.

Наш зямляк наракаў на турэмныя умовы і на сырасьць турэмнага пакойчыка. Баяўся ён, што калі будзе сядзець доўга, то сапсуе голас.

З турмы яго хутка выпусьцілі, бо голас ягоны быў патрэбны польскім палітыканам. Паехаў у Англію. Сьпяваў у польскім радыё, выяжджаў з канцэртамі для польскіх вояк. Бралі яго ў склад польскіх дэлегацыяў у ЗША і Канаду, каб ягонымі патрыятычнымі песьнямі заахвочваць польскіх эмігрантаў да ўступленьня ў войска. Бог ведае, можа разьлічвалі і на беларускіх ахвотнікаў, эмігрантаў з Заходняй Беларусі.

Па вайне Паўла Пракапені пераехаў жыць у ЗША. Там і памёр, далёка ад Бацькаўшчыны, у чужым асяродзьдзі.

Хто ведае дзе магіла сьв. пам. Паўла Пракапені-Пракаповіча?

**М. Швэдзюк**

*З жыцьця ў Чыкага*

## УЗНАГАРОДА НІКАДЭМУ ЖЫЗЬНЕЎСКАМУ



*Губ. Джым Эдгар (трэйці зьлева) вітае узнагароджаных. Другі зьлева Нікадэм Жызьнеўскі*

У жніўні сёлета Губэрнатар штату Іліной Джым Эдгар прызнаў кандыдатуру сп. Нікадэма Жызьнеўскага да Узнагароды Грамадзкага Лідэра (Community Leader Award). А 7-га верасьня сп. Жызьнеўскі ўрачыста атрымаў узнагароду у часе цырымоніі ў Дзень Шматкультурнасьці ў Чыкага.

Сп. Жызьнеўскі быў прадстаўлены для ўзнагароды Беларускім Каардынацыйным Камітэтам за выключную пасьлугу беларускай грамадзе.

## ГОСЬЦІ ЗЬ МЕНСКУ



*Зьлева-направа: др. В. Рамук, Вера Рамук, Ганна Сурмач, Р. Гарэцкі, Пат Міхальскі*

24-га жніўня сёлета наведалі Чыкага сп-ня Ганна Сурмач, старшыня Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і прафэсар, віцэ-прэзыдэнт Акадэміі Навук Беларусі, прэзыдэнт «Бацькаўшчыны» Радзім Гарэцкі. Затрымаліся яны у спадарства Веры і Вітаўта Рамукоў. Пасьля поўдня сп-ня Ганна Сурмач наведала ў шпіталі хворую сп-ню Эўдакію Жызьнеўскую, маці Веры і Нікадэма.

Вечарам гэтага-ж дня сп. Нікадэм Жызьнеўскі, кіраўнік беларускай радыяпраграмы «Нёман» зрабіў інтэрв'ю з гасьцямі для беларускай перадачы.

Наступнага дня госьці і спадарства Рамукі наведалі сп-ню Пат Міхальскі, дарадчыцу па этнічных справах пры губэрнатары штату Іліной Джыма Эдгара, якая цёпла прывітала гасьцей, уручыла прывітальную грамату ад губэрнатара і пажадала ім прыемнага пабыту ў штаце Іліной. Сп-ня Сурмач і праф. Гарэцкі падзякавалі за вітаньні і запрасілі сп-ню Пат Міхальскі адведаць Беларусь.

Наведаньне Публічнай бібліятэкі імя Гэральда Вашынгтона, а асабліва аддзел беларускай кніжкі было наступным пунктам экскурсіі. Тут праф. Гарэцкі заўважыў, што склад беларускіх кніжак ня ўключае шэдэўры-творы славутых пісьменьнікаў Беларусі. Тлумачыцца гэта тым, што праз гады кніжкі ў Бібліятэку дастаўляліся зь Менску спарадычна, без нагляду. А вось у гэтым годзе Бібліятэка асыгнавала 500 даляраў на беларускія кніжкі, а сп-ня Вера Рамук з дапамогай др. Вітаўта Кіпеля ўлажыла каталёг важнейшых беларускіх кніжак і прадставіла яго Бібліятэцы.

Надвор'е ў той дзень было дажджлівае й сьцюдзёнае, аднак ахвота гасьцей пабачыць мазаіку Марка Шагала «Чатыры пары году» пры Першым Нацыянальным Банку была мацнейшая за камфорт. І агляд твору Шагала прынёс ім вялікае эстэтычна-мастацкае задаваленьне.

Па дарозе дамоў госьці заехалі да сп-ні Ірэны Пануцэвіч і сп-ні Людвікі Бяленіс. Ірэна Пануцэвіч была вучаніцай Максіма Гарэцкага ў Віленскай Беларускай Гімназіі, дык праф. Радзім Гарэцкі меў добрую нагоду распытаць пра дэталі быцьця свайго дзядзькі ў Вільні, а сп-ня Людвіка Бяленіс распавяла пра дзейнасьць жонкі Максіма Гарэцкага.

Сп-ні Ірэна й Людвіка, з дому Будчанкі, паказалі свае працы: ялінкавыя ўпрыгожаньні і вышыванкі, пераважна на ўзоры маляваныя сп. Чаславам Будзькам, якія выклікалі вялікае зацікаўленьне і ўхвалу гасьцей зь Менску.

Вечарам гэтага-ж дня была наладжаная сустрэча беларускай грамады з гасьцямі ў залі беларускай каталіцкай, усходняга абраду, Царквы Хрыста Збаўцы. Праф. Радзім Гарэцкі гаварыў пра багацьці й рэсурсы Беларусі, зазначыўшы, што пры рацыянальным вядзеньні гаспадаркі Беларусь можа эканамічна ўстабілізавацца на моцным грунце. Сп-ня Ганна Сурмач расказала пра дзейнасьць і пляны арганізацыі «Бацькаўшчына». Шматлікія пытаньні ў аўдыторыі сьветчылі аб шчырым зацікаўленьні слухачоў праблемамі Беларусі.

Было сабрана 335 даляраў і перададзена сп-ні Ганне Сурмач на дапамогу арганізацыі «Бацькаўшчына».

Адсьпяваньнем песьні «Люблю наш край» закончылая сустрэча з гасьцямі.

У сераду, 31-га жніўня спадарства Каленікі запрасілі гасьцей да сябе і сваёй грамады.

**Др. Вітаўт Рамук**

---

14-га жніўня сёлета ў Чыкага заснаваўся Беларуса-Амэрыканскі Камітэт Для Перавыбараў Губэрнатара Джыма Эдгара.

У склад Камітэту увайшлі: Вера Рамук — старшыня, Нікадэм Жызьнеўскі — кіраўнік вонкавых сувязяў, Эдвін Ўокэр — заступнік старшыні, др. Вітаўт Рамук — другі заступнік, Луіза Джансан — сакратар; сябры — Майк Гаскі, Марта Кучура, Гэлэна Сысой, Міхась Каленік і Мікола Латушкін.

Камітэт заклікае ўсіх грамадзян беларускага паходжаньня ў Іліной аддаць свае галасы за губэрнатара Эдгара. Джым Эдгар ёсьць добрым прыяцелем беларусаў.

*З жыцьця Заходняй Аўстраліі*

Нягледзячы на свае штодзённыя заняткі, штомесячныя зборкі ўправы і сяброў Аб'яднаньня ды іншую ўнутраную і вонкавую дзейнасьць, нашы суродзічы тут ніколі не забываюцца, каб адзначыць свае нацыянальныя сьвяты і юбілеі выдатных беларускіх культурных і палітычных дзеячаў. Сёлетняе сьвяткаваньне 75-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ўрачыста было адзначала 27 сакавіка ў прыцаркоўнай залі англіканскай царквы ў Кэнсінгтон. Службу Божую за Беларускі народ адправіў айцец Уладзімер. Спадар Р.М. прачытаў пабеларуску рэфэрат на тэму дня, а затым спадар Міхась Раецкі малодшы зрабіў абшырны даклад па ангельску, ў заканчэньні якога ён прасіў моладзь шанаваць свае карані і традыцыі. Сьвяткаваньне закончылася зборкай ахвяраў на дапамогу суродзічам у Беларусі.

23-га сакавіка паўгадзінны час Беларускіх праграмаў у радыястанцыі 6 IBA FM быў прысьвечаны гэтай гістарычнай падзеі.

Адзначэньне 52-іх угодкаў трагічнай сьмерці духовага праваднік і прарока Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня — Янкі Купалы было адзначана беларускай радыяпраграмай 6-га ліпеня, а 9-га ліпеня ў сыботу ў залі Беларускага Народнага Дому сабраліся суродзічы, каб ушанаваць памяць найвялікшага песьняра беларускай зямлі і патрона Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі.

Акадэмію адчыніў спадар Міхась Раецкі, старшыня Аб'еднаньня. Даклад на тэму «Значэньне Купалавай творчасьці для літаратуры і нацыянальнага Адраджэньня Беларускага народу» — па беларуску зрабіў Р.М., а другі — «Аб жыцьці і літаратурнай творчасьці Купалы» — па-ангельску прачытаў Міхась Раецкі. У мастацкай частцы было праслуханьне купалавага твору «Курган» у выкананьні ансамблю «Песьняры».

*Гадавы зьезд Б.А.З.А.*

20-га жніўня у залі Беларускага Народнага Дому адбылася гадавая зборка сяброў Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняў Аўстраліі.

Уступным словам і прывітаньнем прыбыўшых на гадавы зьезд сяброў і сябровак Аб'еднаньня, зьезд адчыніў старшыня ўступаючай управы сп. Міхась Раецкі, малодшы. Галоўнымі пунктамі праграмы зьезду былі справаздачы зь дзейнасьці ўправы за мінулы год і выбары новай управы. Кіраваў праграмай сп. Алекс Мароз.

Справаздачу зь дзейнасьці за мінулы год даў старшыня ўступаючай управы, а з грашовага стану ейны скарбнік Алекс Мароз, малодшы. З дыскусіяў над справаздачамі выявілася, што ўправа зрабіла добрую працу, за што была выказана ёй падзяка.

Наступным пунктам праграмы быў: «Выбары новай управы», у якім др. А. Бразоўскі разам з сябрамі і іншымі запрапанаваў, каб уступаючая ўправа, калі яе сябры згодныя на гэта, была выбрана на наступную кадэнцыю. Гэтая прапанова была поўнасьцю адобрана. У новую ўправу ўвайшлі: старшыня – Міхась Раецкі, малодшы; намесьнік – Міхась Ёлаб; сакратар-скарбнік – Алекс Мароз, малодшы;

сябра ўправы – Марылька Ёлаб; прадстаўнік вонкавых сувязяў – Р.М.; прадстаўнік газэты «Беларус» – Марыя Мароз.

*Дапамога Беларускім Радыяперадачам у Пэрце*

Беларускія радыяперадачы ў Пэрце ідуць у эфір дзякуючы ахвярам суродзічаў з Аўстраліі, Англіі, Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, Нямеччыны і іншых краінаў. Апошнім часам было атрымана шэсьць кружэлак і дзьве касэткі ад спадарыні Жэні Юрша, Паўдзённая Аўстралія, сто даляраў ад спадарства Піліпа і Ванды Дарэўскіх ды семсот даляраў ад Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі. Беларускі Радыёвы Камітэт у Пэрце выказвае найшчырэйшую падзяку ўсім ахвярадаўцам.

**Р.М.**

## ДА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ

*У жніўні 1996 году ў Атланце адбудуцца XXVI Алімпійскія гульні. Упяршыню ў летніх Алімпійскіх гульнях будзе прымаць удзел нацыянальная каманда Рэспублікі Беларусь.*

*Цяпер Нацыянальны Алімпійскі Камітэт Беларусі праводзіць працу для прыцягненьня шырокіх колаў грамадзтва, спонсарскіх сродкаў для стварэньня спартсмэнам і трэнерам неабходных умоваў для якаснай падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў.*

*Калі ў Вас ёсьць жаданьне і магчымасьць дапамагчы спартсмэнам Беларусі дастойна прадставіць нашу Бацькаўшчыну на Алімпійскіх гульнях у ЗША, Вы можаце накіраваць свае прапановы ў Пасольства на адрас: 1619 New Hampshire Ave., N.W., Washington, D.C., 20009, або зьвязацца непасрэдна з Дзяржкамспортам Беларусі:*

*Рэспубліка Беларусь, 220600,*
*г. Мінск, вул. Кірава, 8/2.*
*Тэл. (0172) 27-72-37, 26-10-33.*
*Факс: (0172) 27-61-84*
*Тэлекс: 252175 Атлет.*

**ВЫСОКАШАНОЎНАГА СП. МІХАСЯ ТУЛЕЙКУ**
аднаго зь першых кіраўнікоў беларускага арганізацыйнага
жыцьця ў Амэрыцы
вітаюць з нагоды 80-х угодкаў
Галоўная Управа БАЗА,
Газэта «Беларус», БІНІМ і
Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі

**Д-ра Уладзімера Набагеза**
грамадзкага працаўніка й выдатнага мэцаната
ўсіх беларускіх пачынаньняў
з 75-і годзьдзем вітаюць
Беларуска Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут
Навукі й Мастацтва, Рэдкалегія газэты «Беларус»
ды шматлікія сябры й знаёмыя.

## НАПАГАТОВЕ!




Дарагія сябры! Хто быў у беларускіх скаўтах у лягерох ДП не забыўся гэтага клічу «Напагатове», з якім тады зусім маладзенькія юнакі й юначкі: ваўчкі, пралескі, скаўты й скаўткі з гонарам рэпрэзэнтавалі Беларусь на сотнях джэмбары, спаборніцтвах, у лягерох. З мэтай рэпрэзэнтаваць Беларусь у маладзёжным скаўцкім руху яны тады ўваходзілі ў жыцьцё і з клічам «Напагатове» йшлі дзесяцігодзьдзі! Цяпер на зьмену прыходзіць новае пакаленьне скаўтаў на Беларусі. Аднак іхнае жыцьцё ня лёгкае. Беларускім скаўтам на Бацькаўшчыне ніхто не дапамагае. Нашае заданьне, у меру магчымасьці, ім дапамагчы. Мы можам дапамагаць ім літаратурай, парадамі і... грашыма. Асабліва нашая дапамога ім будзе патрэбная ў наладжаньні лягероў, экскурсіяў, падарожжаў.

Зь ініцыятывы спадарыні Люды Махнюк ужо сабрана першае ахвяраваньне.

| | |
|---|---|
| В. і З. Кіпель | ам. дал. 100 |
| Я. Запруднік | 100 |
| А. і Л. Махнюк | 50 |
| Л. і Л. Літаровіч | 50 |
| Г. і С. Арцюшэнка | 50 |
| Л. Касоўская | 50 |
| Беларуска-Амэрыканскі Цэнтр у Саўт Рывэры | 50 |
| Н. Кудасава | 20 |
| Р. і М. Касьцюк | 20 |
| В. Камінкова | 20 |
| М. Гайшун | 20 |
| Л. Высоцкі | 20 |
| В. Дзярак | 20 |
| Ж. і А. Дубяга | 20 |
| Ю. Наумчык | 20 |
| Р. Цупрык | 20 |
| М. Сіцько | 10 |
| С. Наумчык | 10 |
| Т. Варанцова | 10 |
| Л. Літаровіч | 10 |
| М. Кавыль | 10 |
| Н. Занковіч | 10 |
| С. Сумская | 5 |
| Н. Малодзька | 5 |

Наступныя ахвяраваньні для падтрымкі беларускіх скаўтаў перасылайце на адрас:
**Mrs. Luda Machniuk**
**102 William Str.**
**Jamesburg, N.J. 08831**

## ПОШУКІ СВАЯКОЎ

Ад свайго дзеда, Івана Ігнатавіча Рымашэўскага, ведаю, што ягоная старэйшая сястра Ганна Ігнатаўна Татур выехала ў Амэрыку ў 1912 годзе — сьледам за мужам, які зьехаў раней, пасьпеў за два якія гады няблага разжыцца, перш-наперш, паводле слоў дзеза, купіў 20-гэктаровы парк.

Пра сястру Ганну дзед казаў, што яна закончыла Менскую гімназію. Ейны муж Фаустын Татур, скульптар паводле адукацыі, быў чалавекам шырокіх паглядаў, у прыватнасьці на палітыку. Прадчуваньне мікалаеўскай вайны нібыта й прымусіла яго разьвітацца з радзімай, а Ганна зь дзеткамі Марыляй і Мікалаем мусілі счакаць пры бацьках у засьценку Рыме (Слуцкі павет).

З Амэрыкі дзед атрымаў ад Ганны шмат лістоў, былі запрошаньні ехаць таксама. Ліставаньне доўжылася да 1939 году. Зь яго слоў я даведаўся таксама, што Ганна перад другою сусьветнаю вайною памерла. Пляменьнікі дзеда Марылька і Мікалай паканчалі кансэрваторыю.

Аднавіць ліставаньне зь сястрою так і не ўдалося. Ў 1974 годзе, за тры гады да сьмерці, дзед выклаў мне ўсе падрабязнасьці і пошук родных усклаў на мяне.

Зусім верагодна, што сёньня жывыя нашчадкі Ганны і Фаустына Татураў — Марыя й Мікалай, як жывыя дагэтуль мае бацькі, зь якіх мая шаноўная 68-гадовая мама — іхная дваюродная сястра.

Загадзя ўдзячны ўсім, хто паспрыяе, каб майго голасу дачуліся сваякі ў далёкай і блізкай Амэрыцы.

Мой адрас:
220088, Беларусь, Менск, Іванаўская вул., д. 38, кв. 16 Дранчук Валеры.
Тэл. 36-50-76 (хатні)

Адамовіч, Лідзія Андрэеўна, дачка Андрэя Ануфрыевіча Пэйдзік (1912-1975) шукае родных Пэйдзік Марыю Ануфрыеўну і Сьцяпана Ануфрыевіча, года народжаньня каля 1910. Выехалі яны ў ЗША пасьля 1930 году зь вёскі Рунцаўшчыны, гміна Казловічы, каля Баранавічаў.

Просім адгукнуцца на адрас: Баранавічы, вул. Міцкевіча, д. 4, кв. 2, Адамовіч Лідзія.

Мы, былыя жыхары Мозыра, вось ужо год як жывем у Амэрыцы, але ніяк ня можам знайсьці сваіх родных. Яны два браты нашай маткі: Слуцкі Арон і Слуцкі Шыман — пераехалі ў Амэрыку ў 1922 годзе. Да 1948 году мы падтрымлівалі зь імі сувязь. У 1948 г. мы атрымалі ад іх апошнюю пісьмо і сямейную фотакартку, пасьля чаго сувязь спынілася.

У Арона і Шымана былі дочкі, нашыя стрыечныя сёстры. Верагодна, што яны павыходзілі замуж і зьмянілі свае прозьвішчы.

Калі хто штосьь аб іх ведае, пішэце на адрас:
Dasha Grenader
24 Brighton 4 Ter. apt. 1
Brooklyn, N.Y.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

У выдавецтве БІНіМу пад рэдакцыяй Лявона Юрэвіча выйшла кніга:

**Уладзімер Дудзіцкі**
**НАПЯРЭЙМЫ ЖАДАНЬНЯМ**
**Збор твораў**

Бібліяграфія й камэнтары да кнігі зробленыя Аленай Юрэвіч, вокладку апрацавала Ірэна Рагалевіч-Дутко, друкаваў кнігу Мікола Прускі.

Кніга ў цьвярдой вокладцы, 313 бач. Цана кнігі ам. дал. 25.

Замаўляць кнігу ў БІНІМе.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНІМ

| | |
|---|---|
| І. і Я. Сурвіллы | ам. дал. 70 |
| В. і З. Кіпель (у памяць Еўдокіі Жызьнеўскай) | 50 |
| В. і З. Кіпель (у памяць Эвэліны Шыманец) | 50 |
| **Ю. Юхнавец** | **10** |

## КАЛЯДНА-НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ!!!

Павіншуйце сваякоў, сяброў і знаёмых тут і на Бацькаўшчыне праз газэту «Беларус» і падтрымайце гэтым беларускае друкаванае слова, складаючы ахвяраваньне на выдавецкі фонд «Беларуса» ў суме **20 дал. за асабістае віншаваньне і 50 дал. за арганізацыйнае.**

Няхай Ваша імя або назоў Вашай арганізацыі, прыходу, установы будзе ў ганаровым сьпісе тых, хто дацэньвае й падтрымвае вольны беларускі друк. **Газэта «Беларус» патрабуе Вашай фінансавай дапамогі.** Тэрмін уключэньня Вашага прозьвішча або Вашай арганізацыі ў гэткі сьпіс – 15 лістапада.

## ЗБОР НА БЕЛАРУСКУЮ ПРЭСУ

**з нагоды 21-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі**

| | |
|---|---|
| В. Кіпель | канад. дал. 60 |
| І. і Я. Сурвіллы | 60 |
| М. Ганько | 50 |
| А. Кіпель | 30 |
| З. Кіпель | 30 |
| Ул. Набагез | 20 |
| Л. Рагуля | 20 |
| В. Русак | 20 |
| Н. Сільвановіч | 20 |
| ул. Мікалай | 20 |
| Л. Алешко | 20 |
| Л. Стыльмашэнка | 20 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| В. Пашкевіч | 15 |
| А. Максімюк | 10 |
| А. Маркевіч | 5 |
| О. Грыцук | 5 |
| Харытанюк | 5 |
| Ананімна (18 асобаў) | 178.75 |
| Н. і А. Лук'янчыкі | ам. дал. 100 |
| К. і С. Вініцкія | 50 |
| Валя | 40 |
| Я. Запруднік | 20 |
| М. Гаўрылюк | 20 |
| Э. Рыжы | 20 |
| М.К. | 20 |
| Н. і А. Сільвановічы | 20 |
| А. Максімюк | 10 |
| а. М. Страпко | 10 |
| В. Махнач | 10 |
| К. Калоша | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| В. Трыгубовіч | 10 |
| А. Шукелойць | 10 |
| В. Ягаўдзік | 5 |

Усе сабраныя грошы былі падзеленыя пароўну на «Беларуса« і на “Belarusian Review”.

Шчыра дзякуем усім ахвярадаўцам.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана непасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Н. Жызьнеўскі і В. Рамук (у памяць маці Эўдокіі Жызьнеўскай) | ам. дал. 100 |
| І. Толлівэр (у памяць Эўдокіі Жызьнеўскай) | 25 |
| В. і М. Махнач (замест кветак на магілу Э. Жызьнеўскай) | 100 |
| А. Чарнэцкая (замест кветак на магілу Э. Жызьнеўскай) | 100 |
| **Я. Юхнавец** | **10** |
| **К. Мерляк** | **100** |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Я. Дзядовіч (у памяць мужа Дзьмітра) | 35 |
| П. Алексы | 30 |
| В. Цар | 25 |
| М. Грэбень | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| А. Субота | 20 |
| М. Каранеўскі | 20 |
| **А. Непейн** | **20** |
| **А. Сільвановіч** | **20** |
| **С. Трыгубовіч** | **20** |

## СЬВ. ПАМ. ЭЎДОКІЯ ЖЫЗЬНЕЎСКАЯ



20-га верасьня адыйшла ў вечнасьць у Чыкага на 94-ым годзе жыцьця Эўдокія Жызьнеўская пакінуўшы ў суме дачку Веру Рамук з мужам доктарам Вітаўтам і іх дзяцьмі Ірэнай і Янкам з сем'ямі і сына Нікадэма з жонкай Анн-най (Грынько) і іх дзецьмі Марыяннай, Валодзям, Юркам і Ліляй зь іх семь'ямі.

Паховіны сьв. пам. Эўдакіі Жызьнеўскай адбыліся 24-га верасьня зь беларускай каталіцкай царквы ўсходняга абраду Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Цела нябожчыцы спачыла на могілках сьв. Адальбэрта. Пахавальны абрад выканалі айцы Язэп Сыру і Ангел Марзал. Разьвітальнае слова над магілай сказаў зяць, др. Вітаўт Рамук і ўнук Янка Рамук.

Нябожчыца была актыўная у грамадзкім жыцьці беларускае эміграцыі, а найбольш прысьвяціла часу прыгатаваньню беларускіх народных касьцюмаў і лялек, якіх яна зрабіла 130, і якія ахвотна дарыла ўсім, хто працаваў на карысьць Беларусі.

Сьв. пам. Эўдокія Жызьнеўская, з дому Гапанёнак, была родам са шляхты з засьценку Паляніні, што каля Крулеўшчыны у Віцебскай вобласьці.

Сьв. пам. Эўдокія Жызьнеўская выехала зь Беларусі у 1944-ым годзе, калі край стагнаў ад мукаў вайны: з болем пакінула магілу 19-ці гадовага сына Уладзіміра, якому адабралі жыцьцё чырвоныя партызаны.

У Амэрыку Эўдокія Жызьнеўская прыехала ў 1949-ым годзе з мужам Сьцяпанам, сынам Нікадэмам і дачкой Верай. Муж Сьцяпан памёр у 1962 годзе. Яна вельмі любіла Амэрыку і жыцьцё ў ёй. Цешылася вельмі, калі Беларусь стала незалежная. Нажаль, ейны век і стан здароўя не далі ёй магчымасьці зьведаць свой родны кут.

У Беларусі засталіся пляменьнікі й пляменьніцы ды братавая Дар'я Гапанёнак, а ў Літве малодшая сястра Анна Варнене і тры пляменьніцы й пляменьнік.

У дзень паховінаў сьв. пам. Эўдокіі Жызьнеўскай адначасна былі адслужаныя жалобныя малебны ў Беларусі і Літве.

Няхай успамін аб гэтай добрай і ахвярнай патрыётцы-беларусцы Эўдокіі Жызьнеўскай вечна жыве ў сэрцах тых, хто яе ведаў ды пухам будзе ёй прыязная заўсёды і для ўсіх свабодалюбная амэрыканская зямля.

**Сям'я й сябры.**

## СЬВ. ПАМ. АЛЯКСАНДАР ЛУК'ЯНЧУК



Нарадзіўся 20-га жніўня 1909 г. у вёсцы Волька, каля Берасьця ў Беларусі ад бацькоў Данілы і Стэфаніды. Акрамя Аляксандра ў сям'і было двух братоў Пятро і Іван і тры сястры Стэфаніда, Марыя й Нюша. За польскіх часоў бацькі мелі гаспадарку, якую пазьней перанялі браты, а Аляксандар працаваў на будоўлі дарог. Ажаніўся з Мартай з роду Панасюк і меў 6 дзяцей: Анатоля, Сяргея, Маню, Андрэя, Янку й Галіну. У 1944 годзе, не захацеў заставацца пад бальшавіцкай уладай і выехаў ў Нямеччыну, дзе працаваў на фарме. Па заканчэньні вайны апынуўся ў амэрыканскай зоне й жыў у беларускіх лягерох: Аўзбах, Остэргофэн, Розэнгайм.

У канцы 1951-га году пераехаў у Амэрыку й пасяліўся ў горадзе Кліўленд, у штаце Огаё. Працаваў пры будаўляным цэмантовым аддзеле.

Нябожчык Александар быў вельмі актыўны й ахвярны ў беларускай калёніі. У царкве Жыровіцкае Божае Маці, калі яшчэ ня мелі свайго будынку, прыслужваў у часе службаў, сьпяваў у царкоўным хоры, браў удзел у царкоўных імпрэзах, а пазьней улажыў шмат ахвярнай працы ў пабудове новае царквы, быў некалькі гадоў сябрам царкоўнага камітэту.

Быў актыўным у арганізацыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня прымаў удзел у наладжаньні імпрэзаў, нацыянальных сьвятаў, быў некалькі гадоў заступнікам старшыні, падтрымліваў матэрыяльна.

Вялікую працу ўлажыў у наладжаньні субботняе школы для дзяцей. Належаў да бацькаўскага камітэту. У сваім доме ў падвале пабудаваў сьценкі, дзе адбываліся першыя клясы беларускае школкі, якая пазьней была перанесеная ў царкоўны дом.

Апрача гэтага нябожчык належаў праз доўгі час да Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў ды Рады БНР.

У 1975 годзе пакойны Аляксандар выехаў ў горад Санюат, Огаё непадалёку Кліўленду, дзе яго сыны заснавалі свой бізніс. Аднак ён не пакінуў Кліўлендскую калёнію і наведваў царкву, урачыстасьці й сьвяткаваньні аж да апошняга часу. У 1976 годзе адышла на супакой ягоная жонка Марта, а Аляксандар перабраўся да дачкі Галіны Каваль. Да апошняга дня працаваў у сына Толіка на фабрыцы.

Нябожчык Аляксандар быў вельмі добрым бацькам. Патрапіў добра ўзгадаваць дзяцей і трымаць разам. Старшыя тры сыны маюць свае бізнэсы, малодшыя дзеці пакончалі вышэйшую асьвету і дасталі добрыя працы. За бацькавым прыкладам усе дзеці прымалі актыўны ўдзел у жыцьці беларускай калёніі.

Памёр 31-га жніўня 1994 году раптоўна й спакойна, седзячы ў крэсьле, чытаючы газэту. Пакінуў па сабе 6 дзяцей, 23 унукі й 12 праўнукаў. Беларуская калёнія добра ўшанавала яго памяць сваею прысутнасьцю ў часе службы ў царкве і на магільніку. Труна была пакрытая беларускім сьцягам. Пахаваны на Рывэрсайд, магільніку, побач беларускае сэкцыі, каля жонкі.

Сьпі спакойна дарагі бацька, дзед і прадзед, нашай калёніі супрацоўнік, сябра й змагар за нашу Бацькаўшчыну — Беларусь. Хай Табе сьняцца прыгожыя краявіды Беларусі на Палесьсі, яднайся разам з дарагою жонкаю Мартай у царстве нябесным.

**Кастусь Калоша**

## СЬВ. ПАМ. ЭВЭЛІНА ШЫМАНЕЦ



Сёлета не магла я дачакацца мае штогадовае паездкі ў Францыю. З свайго боку мама, якая ніколі нічога ад нас не вымагала, часта пыталася ў часе нашых тэлефонных гутаркаў: «Калі-ж ты ўжо прыяжджаеш?» Адведала я маму ў пачатку травеня. Гэта й быў апошні раз калі я пабачыла маму яшчэ здаровай, вясёлай, як заўсёды, у сваім уласным доміку. Менш за месяц пазьней патэлефанавалі мне, што мама ў шпіталі, а 17-га ліпеня адыйшла ад нас на вечны супакой.

У часе тых травеньскіх дзён, якія мы правялі разам, мама дзялілася з намі, як заўсёды, успамінамі аб Беларусі, аб дзяцінстве ў мястэчку Ішкаўдзь, дзе яна нарадзілася і дзе знаходзіцца адна з найпрыгажэйшых сьвятыняў Беларусі, аб тым як яна ад маленства марыла аб вялікім сьвеце.

Была мама яшчэ маленькай, калі памёр ад гішпанкі яе бацька Язэп Пашкевіч. Быў ён інтэлегентны і дасьветчаны чалавек і сьмерць яго пакінула маладую ўдаву Эвэліну з пяцьмадзеткамі, у роспачы. У хуткім часе памерла й яна, як выглядала, ад сухотаў. Перад сьмерцю сказала старэйшай дачцы, якую назвалі таксама Эвэлінай, каб ішла вучыцца. І тады ўжо мама паказала сваю ініцыятыву, адвагу і упорыстасьць. Ня маючы сама ніякай магчымасьці дабрацца да Баранавічаў угаварыла сяброўку, каб ехала вучыцца зь ёю. Бацька сяброўкі завёз іх у горад, там здалі экзаміны ў гандлёвую школу, якую мама й скончыла.

Ня лёгкія былі тыя гады, хаця браты дапамагалі колькі маглі. Давала мама лекцыі, прыгатоўвала вучняў да экзамінаў, вучыла дзетак прыватна. Сконьўшы навуку сама, памагла вучыцца й наймалодшаму свайму брату Альбэрту, які быў яшчэ малым, калі памерлі бацькі. Вывучыўся ён на архітэктара ўжо пасьля вайны.

У сваіх успамінах тата расказвае, як ён першы раз спаткаў маму у Стоўпцах і як ёю захапіўся. Пазнаёміліся яны крышку пазьней на прадстаўленьні «Птушкі шчасьця». Пажаніліся ў Стоўпцах у 1935-м годзе, і там-жа я і Лёнік нарадзіліся.

Надоўга патрывала шчасьце маладой пары. Прыйшлі бальшавікі, забралі тату, засудзілі на 5 гадоў Сібіру. Дзякуючы маміным стараньням, аднак, ня ўсьпелі вывезьці, бо пачалася вайна.

У часе нямецкай акупацыі мама працавала настаўніцай у Засульлі. У 1941-м годзе нарадзілася дзяўчынка, якую назвалі Прадславай. Перад надыходам бальшавікоў у 1944-м годзе, калі жыцьцёвыя дэцызіі рабіліся за некалькі гадзін, мама вырашыла не раставацца з татам, а выехаць зь ім, каб не папасьці яму зноў у савецкую турму.

Страшэнна цяжкія былі для маіх бацькоў два наступныя гады, калі давялося поў-Эўропы прайсьці з трыма малымі дзеткамі, пад бомбамі, між двума франтамі. Мама ніколі не наракала. Памятаю затое мамэнты, калі толькі яе адвага выратоўвала нас ад найгоршага. Адным такім мамэнтам была нашая ўцечка з акружэньня з паўвостраву Гэлі, каля Гдыні, калі мама мужна, не зважаючы на забароны салдатаў, павяла нас на лодку, якая адвозіла пасажыраў на карабель. Гэтак мы папалі, самымі апошнімі, на карабель, які адплываў у Данію.

Заехаўшы ў Данію памерла Слаўка. Яшчэ памятаю роспач бацькоў. Аб гэтым пэрыядзе мама рэдка ўспамінала. Быў ён найцяжэйшым у яе жыцьці. Паставілі на магілцы Слаўкі камень з надпісам «Прадслава Шыманец, дачка беларускіх уцекачоў».

Хутка пасьля пераезду з Даніі на сталае жыцьцё ў Францыю, у 1948-м годзе, трэба было брацца будаваць хату, бо памешканьняў пасьля вайны у Парыжы ня было. Тут зноў мама адыграла мабыць найвялікшую ролю, бо толькі дзякуючы яе ашчаднаму й разумнаму гаспадараньню змаглі купіць кавалачак зямлі ды без пазычкаў адбудаваць сваімі рукамі дом. Адзіны прыход, які тады нашая сям'я мела, гэта быў татаў заробак.

У хаце пры вячэры, за сталом, гаварылі аб навуцы, аб мастацтве, аб беларускім жыцьці. Ува ўсім, што мы рабілі, заўсёды маглі разьлічваць на падтрымку мамы. Сваім прыкладам — шчодрасьцю, гасьціннасьцю, сумленнасьцю — вырабіла ў Лявона і ў мяне бязьмежную любоў да ўсяго беларускага, бо-ж бацькі нашы прадстаўлялі праз многія гады у вачах нашых, усю Беларусь.

Хачацца яшчэ аддаць чэсьць мамінаму творчаму таленту. Мама цудоўна пісала. Бачынкі, якія яна прысьвяціла арышту таты ў восені 1940-га году я ніколі не магла чытаць бяз сьлёз. Спадзяюся, што з часам з братам зможам апублікаваць хоць некаторыя маміны сшыткі.

**Івонка Шыманец Сурвілла**

*Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў*

### У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901